... ўсіх краін, злучайцеся!

# БЮЛЯТЭНЬ НАРОДНЫХ КАМІСАРЫЯТАЎ І ЦЭНТРАЛЬНЫХ УСТАНОЎ БЕЛАРУСКАЙ ССР

Выдаецца Кіраўніцтвам Спраў СНК і Эканамічнага Савету БССР
г. Менск, Чырвонаармейская вул. № 3. — Падпісная плата на год 5 р. і на 1/2 г. 2 р. 50 к.
VIII. ГОД ВЫДАНЬНЯ

№ 9 (131) | 20 жніўня 1932 г. | № 9 (131)



## ЗЬМЕСТ



---

## Па Народнаму Камісарыяту Фінансаў БССР

Зацьвярджаю.
Нам. Народнага Камісара Фінансаў
БССР М. Абрамсон.
27 ліпеня 1932 г.

## 27. ПРАВІЛЫ

### па збору, хаваньні і здачы сум сельскагаспадарчага падатку 1932 г. і акладнога страхаваньня 1933 г.

#### I. Парадак уплаты падатку і акладных страхавых плацяжоў.

§ 1. Сельскагаспадарчы падатак і акладныя страхавыя плацяжы ўплачваюцца ў тэрміны, паказаныя ў інструкцыях пра парадак правядзеньня сельскагаспадарчага падатку за 1932 год і абавязковага акладнога страхаваньня на 1933 год.

§ 2. Калі пасьля ўплаты першапачаткова налічанай сумы сельгаспадатку або акладных страхавых плацяжоў па тэй ці іншай гаспадарцы зроблена прылічэньне сумы сельгаспадатку ці страхоўкі ў зьвязку з выяўленьнем скрытых аб'ектаў, высьвятленьнем памылак

і інш., то прылічаная сума ўплачваецца ў 10-цідзённы тэрмін, а кулакамі—у 2-хдзённы тэрмін.

§ 3. Сельгаспадатак і акладныя страхавыя плацяжы (аклад, нядоімка, пеня і штраф) уплачваюцца грашыма або аблігацыямі наступных дзяржаўных пазык, па вызначанай на іх каштоўнасьці, г. зн. па наміналу:

а) 2-й сялянскай выйгрышнай пазыкі 1925 г.;

б) 3-й сялянскай выйгрышнай пазыкі 1927 г.,

в) купонамі ад аблігацый усіх пазык, калі па гэтых купонах наступіў тэрмін уплаты.

§ 4. Калі сельгаспадатак ці страхоўка ўносіцца платнікам аблігацыямі, паказанымі ў § 3, і платніку належыць выдаць рэшты, то апошняя выдаецца грашыма.

Пры ўплаце аблігацыямі на меншую суму, астатняя сума прылічваючагася падатку або страхоўкі даплачваецца платнікам грашыма.

### II. Куды можна ўносіць сельгаспадатак і акладныя страхавыя плацяжы.

§ 5. Па ўсёй БССР сельгаспадатак і акладныя страхавыя плацяжы могуць уплачвацца:

1) каляктыўнымі гаспадаркамі (калгасамі), як правіла, у Дзяржбанк шляхам пералічэньня адпаведных сум з іх бягучых рахункаў. У асобных выпадках калгасы могуць уносіць плацяжы ў сельсаветы, ашчадкасы і ўстановы Дзяржбанку наяўнымі грашыма;

2) аднаасобнымі гаспадаркамі і калгасьнікамі, па жаданьні платнікаў, сельгаспадатак і страхавыя плацяжы ўносяцца ў паказаныя ніжэй установы:

а) ва ўсе ўстановы Дзяржбанку, прычым Дзяржбанк прымае сельгаспадатак і страхавыя плацяжы незалежна ад таго, дзе знаходзіцца гаспадарка, за якую ўплачваюцца сельгаспадатак і страхавыя плацяжы, і дзе пражывае платнік;

б) у сельсаветы, дзе знаходзіцца гаспадарка, за якую ўносяцца акладныя страхавыя плацяжы і сельгаспадатак;

в) у ашчадныя касы па правілах, устаноўленных Галоўным Кіраўніцтвам ашчадкас і дзяржкрэдыту.

§ 6. Калі платнік знаходзіцца па-за сваёй гаспадаркай, дык уплату сельгаспадатку і страхавых плацяжоў можна рабіць праз пошту.

§ 7. Сельгаспадатак і акладныя страхавыя плацяжы прымаюцца ад платнікаў пры акладных лістох, за выключэньнем тых выпадкаў, калі плацяжы пераводзяцца праз пошту.

§ 8. Аб уплаце падатку і страхавых плацяжоў сельсаветы або крэдытныя ўстановы робяць адзнакі ў акладных лістох.

§ 9. Сельсаветы, якія атрымалі страхавыя плацяжы і сельгаспадатак непасрэдна ад платнікаў, запісваюць іх ў рэестр і заносяць у асабовыя рахункі платнікаў. Рэестр складаецца ў адным экзэмпляры і захоўваецца ў справах сельскага савету.

§ 10. Установы Дзяржбанку, якія атрымалі страхавыя плацяжы непасрэдна ад платнікаў, заносяць іх у рэестр. Рэестр складаецца ў 3-х экзэмплярах, з якіх адзін экзэмпляр Дзяржбанк перасылае ў адпаведны сельсавет, другі—ў райфа, а трэці пакідае пры сваіх справах.

§ 11. Для устанаўленьня дакладнага ўліку паступленьняў сельгаспадатку і страхоўкі па паасобных сацыяльна-эканамічных групах, сельсаветы і крэдытныя ўстановы пры прыёме сельгаспадатку і страхоўкі непасрэдна ад платнікаў, павінны абавязкова паказваць у графе „Катэгорыя гаспадарак“ або ва „Увазе“ рэестру, да якой катэгорыі адносіцца платнік: „калгасьнік“ або „працоўны аднаасобнік“ ці „індывідуальна абкладзены“. Райфінаддзелы павінны мець пільны нагляд за выкананьнем гэтага патрабаваньня.

§ 12. Сельсаветы, атрымаўшы ад Дзяржбанку ці ашчадкасы рэестр, абавязаны праверыць разьмеркаваньне ўнесенай платнікам сумы на аклад, нядоімку, пеню і неадкладна запісаць уносы ў асабовыя рахункі платнікаў.

§ 13. Паштовыя ўстановы пераводзяць прынятыя сумы сельгаспадатку і страхоўкі па пошце ў адрас сельсавету, дзе знаходзіцца гаспадарка платніка. Пры пераводзе падатку ці страхоўкі па пошце на адрэзным купоне, які перадаецца адрасату, робіцца адзнака аб тым, які плацеж пераводзіцца: „сельгаспадатак“, „страхоўка“.

§ 14. У прыёме поштай грошай, унесеных на ўплату сельгаспадатку і страхоукі, платніку выдаецца звычайная расьпіска з адзнакай „сельгаспадатак“ або „страхоўка“ (у залежнасьці ад таго, якія сумы прымаліся), а на адвароце расьпіскі, апроч таго, паказваецца імя, прозьвішча платніка і ставіцца каляндарны штамп часу прыёму грошай. Калі сельгаспадатак або страхоўка прымаецца лістаносцам, тады на расьпісцы замест адбітку каляндарнага штампу робіцца адзнака ад рукі (число, месяц, год прыёму) з подпісам лістаносца.

§ 15. Паштовая расьпіска зьяўляецца дакумэнтам аб уносе сельгаспадатку або страхоўкі, а дзень здачы грошай лічыцца днём уплаты сельгаспадатку або акладных страхавых плацяжоў.

§ 16. Пры прад'яўленьні платнікамі акладных лістоў і паштовых расьпісак аб пераводзе сум с.-г. падатку ці страхоўкі, сельскія саветы, на падставе маючыхся ў іх паштовых пераводаў, абавязаны зрабіць адзнаку ў адкладным лісьце аб уплаце падатку ці страхоўкі.

### III. Пра парадак уплаты с.-г. падатку і страхавых плацяжоў калгасамі.

§ 17. Калгасы, якія ўносяць акладныя страхавыя плацяжы і сельгаспадатак ва ўстановы Дзяржбанку ў парадку безнаяўнага разьліку, робяць гэтыя ўносы праз прадстаўленьне ў Дзяржбанк загаду ў трох экзэмплярах па наступнай форме:

У . . . . . . . . . . . . . . . Аддзяленьне Дзяржбанку.

Просім пералічыць з нашага бягучага рахунку за № . . . . на бягучы рахунак Райфа на уплату наступных плацяжоў:

| | С.-г. падатку | Страхоўкі |
|---|---|---|
| Нядоімкі мінулых гадоў . . . | | |
| Акладу . . . . . . . . . . | | |
| Пені . . . . . . . . . . . | | |
| Усяго . . | | |

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
(сума прапісам)

. . . . . . . . . . . . . . 1932 г.

Старшыня Праўленьня Калгасу . . . . . . . . . . . .
(назва)

(Подпіс)

Адзін экзэмпляр загаду з адзнакай аб уносе страхавых плацяжоў або сельгаспадатку Дзяржбанк зварачвае калгасу, другі перасылае ў райфа пры выпісцы, а трэці пакідае пры справах банку.

§ 18. Атрымаўшы ад Дзяржбанку копіі загадаў калгасаў райфа правярае разьмеркаваньне ўнесеных сум на нядоімку, аклад і пеню і правільнасьць вылічэньня пені і запісвае паступіўшыя страхавыя плацяжы або сельгаспадатак у асабовыя рахункі калгасаў.

§ 19. Унос страхавых плацяжоў або сельгаспадатку ва ўстановы Дзяржбанку, ашчадкасы або ў сельсаветы наяўнымі грашыма калгасы ўтвараюць на агульных падставах, г. зн. у парадку, устаноўленым для калгасьнікаў і аднаасобнікаў.

§ 20. Раённыя фінансавыя аддзелы вядуць сыстэматычны нагляд за сваечасовай здачай калгасамі, сельсаветамі і ашчадкасамі страхавых плацяжоў і сельгаспадатку ва ўстановы Дзяржбанку і правільным залічэньнем апошніх па адпаведныя рахункі.

Страхавыя плацяжы павінны залічвацца Дзяржбанкам на бягучы рахунак райфа па Дзяржстрахаваньні № 31.

### IV. Нядоімка сельгаспадатку і акладных страхавых плацяжоў.

§ 21. Пасьля сканчэньня кожнага тэрміну ўплаты сельгаспадатку або акладных страхавых плацяжоў, нявыплачаны аклад падатку ці страхоўкі, які прылічваўся да гэтага тэрміну, пералічваецца ў нядоімку, на якую налічваецца пеня.

§ 22. На нядоімкі сельгаспадатку і страхоўкі як бягучага году, так і мінулых гадоў пеня налічваецца і спаганяецца за кожны дзень пратэрміноўкі ў наступных разьмерах: з калгасаў—0,1 проц., з калгасьнікаў і аднаасобных працоўных гаспадарак—0,2 проц., з кулацкіх гаспадарак—1 проц. за кожны дзень пратэрміноўкі.

§ 23. На нядоімку мінулых гадоў пеня павінна была быць налічана на тэрмін 1-га ліпеня 1932 г. пры запаўненьні новых акладных лістоў.

Пеня, якая будзе належыць за далейшы час з першага ліпеня па дзень уплаты, налічваецца і спаганяецца адначасова з уплатай нядоімкі.

Пеня налічваецца на поўныя рублі нядоімкі, пры чым сума 50 і болей кап. прымаецца за поўны рубель, а сума менш 50 кап. з разьліку выключаецца.

§ 24. Калі за платнікам лічыцца нядоімка і штраф, то пры ўплаце ў першую чаргу пагашаецца нядоімка з пеняй, а потым штраф.

§ 25. Нядоімка сельгаспадатку або страхоўкі і налічаная на іх пеня, пры няўплаце нядоімшчыкамі ва ўстаноўленыя тэрміны дабравольна спаганяецца ўстаноўленымі законам прымусовымі мерамі спагнаньня.

§ 26. Нядоімка сельгаспадатку або акладных страхавых плацяжоў, што лічацца за гаспадаркамі, якія падзяліліся, спаганяюцца з тэй гаспадаркі, якая абавязалася плаціць па разьдзельнаму акту. Калі абавязацельства ў разьдзельным акце не агаворана, дык нядоімка спаганяецца з уноў утварыўшайся гаспадаркі па пагляду сельсавету.

§ 27. Нядоімкі, якія лічацца за платнікамі, выбыўшымі невядома куды і не спаганыя з-за нявышуку платнікаў, могуць быць зьняты райвыканкомам па прадстаўленьні сельсаветаў, калі немагчыма поўнае або частковае пагашэньне нядоімкі за кошт застаўшайся маемасьці платніка.

§ 28. Нядоімка, якая лічыцца за калгасьнікамі, спаганяецца непасрэдна з нядоімшчыка. У выпадку няўплаты запазычанасьці дабравольна, спагнаньне зварачваецца на тыя даходы і маемасьці калгасьніка, якія засталіся неабагуленымі. Калі-ж пакрыцьцё запазычанасьці за лік гэтых прыбыткаў і маемасьці ня можа быць зроблена то спагнаньне накіроўваецца на грашовыя сумы, якія прылічваюцца гэтай гаспадарцы з калгасу.

§ 29. Нядоімка і пеня па сельгаспадатку, а таксама і па страхоўцы могуць быць зьняты сельсаветамі:

а) з гаспадарак, вызваленых ад сельгаспадатку і страхоўкі па маламоцнасьці,

б) калі сума нядоімкі па маламоцных гаспадарках не перавышае аднаго рубля.

§ 30. Нядоімкі па сельгаспадатку, страхоўцы і пеня могуць быць зьняты райвыканкомамі:

а) па сельгаспадатку, калі гаспадарка пацярпела ад якой-небудзь стыхійнай бядоты,

б) па страхоўцы, калі гаспадарка пацярпела ад такіх стыхійных бядот, якія не прадугледжаны правіламі акладнога страхаваньня,

в) у іншых выпадках, калі гэта знойдуць неабходным райвыканкомы ў адпаведнасьці з палажэньнем аб спагнаньні падатку.

### V. Зварот і залік пераплат па сельгаспадатку і страхоўцы.

§ 31. Усе лішне заплачаныя або няправільна спагнаныя з платніка сумы падатку ці страхоўкі зварачваюцца яму або па яго жаданьні залічваюцца на ўплату сельгаспадатку ці страхоўкі за наступны год.

Зварот пераплат сельгаспадатку ці страхоўкі дапушчаецца толькі ў тым выпадку, калі за платнікам ня лічыцца ніякіх іншых плацяжоў. У адваротным выпадку пераплата залічваецца на пагашэньне іншых плацяжоў.

§ 32. Пры незапатрабаваньні пераплат яны залічваюцца ў лік падатку ці страхоўкі наступнага году. Аб заліку ў такім выпадку пераплат на ўплату падатку ці страхоўкі наступнага акладнога году, сельсавет робіць на асабовым рахунку бягучага акладнога году адзнаку аб суме, якая павінна быць залічана ў наступным годзе, і пасылае платніку аб гэтым паведамленьне.

§ 33. Пры звароце пераплачаных сум сельгаспадатку ці страхоўкі спагнаная за несваечасовую ўплату пеня зварочваецца ў той частцы, якая прыпадае на зварачваемую суму.

§ 34. Зварот пераплачаных сум па с.-г. падатку ўтвараецца калгасьнікамі і аднаасобным гаспадаркам за лік сродкаў раённых і сельскіх бюджетаў прапарцыянальна сумам, якія залічваюцца ў гэтыя бюджеты па паступленьню сельгаспадатку.

§ 35. Па страхоўцы зварот утвараецца сельсаветамі па асобным даручэньні райфа з сум па дзяржстрахаваньню выдачаю чэку на належачую звароту суму.

### VI. Хаваньне і здача сабраных сум па сельгаспадатку і акладных страхавых плацяжох.

§ 36. Атрыманыя сельсаветамі ад платнікаў на ўплату сельгаспадатку і акладных страхавых плацяжоў сумы да здачы іх у крэдытныя ўстановы (Дзяржбанк) захоўваюцца ў касе сельсавету. Адказнасьць за цэласьць і сваечасовую здачу ў Дзяржбанк сум нясуць старшыні сельсаветаў.

§ 37. У тых выпадках, калі ў месцы, дзе знаходзіцца сельсавет, ёсьць аддзяленьне Дзяржбанку або ашчадкаса, сельсавет здае ў канцы кожнага дню ўсе атрыманыя ад платнікаў сумы як акладных страхавых плацяжоў, так і сельгаспадатку ў Дзяржбанк. Пры адсутнасьці на месцы крэдытнай установы сельсавет здае сельгаспадатак у Дзяржбанк або ў ашчадкасу па месцы хаваньня сродкаў свайго бюджэту ў парадку і ў тэрміны, вызначаныя райфінаддзелам, але ня менш, як тры разы ў дэкаду.

Страхавыя плацяжы накіроўваюцца ў Дзяржбанк для залічэньня на бягучы рахунак райвыканкому па Дзяржстрахаваньню № 8 у тыя самыя тэрміны, што ўстаноўлены для сельгаспадатку.

§ 38. Крэдытныя ўстановы, якія атрымалі сумы сельгаспадатку, робяць разьбіўку паступленьняў паміж раённымі і сельскімі бюджэтамі.

§ 39. Усе паступіўшыя сумы сельгаспадатку і акладных страхавых плацяжоў здаюцца сельсаветамі пры ведамасьцях па ніжэй паказанай форме, якая складаецца ў трох экзэмплярах. Крэдытная ўстанова, атрымаўшая плацяжы, адзін экз. гэтай ведамасьці з адзнакай у атрыманьні грошай зварачвае сельсавету, другі перасылае райфа пры выпісцы, а трэці пакідае пры сваіх справах.

Форма

ВЕДАМАСЬЦЬ

аб паступіўшых сумах . . . . . . . . . . . . . . . з „ “ . . . .
месяца 193 . . г. па . . . . . . . . . . . . месяца 193 . . . г.
па . . . . . . . . . . . . . . . сельсавету . . . . . . . . . . . раёну

| Катэгорыя гаспадарак | Паступіла | | | Зьвернута | Здадзена ў Дзяржбанк. |
|---|---|---|---|---|---|
| | Нядоімка | Аклад | Пеня | | |
| Ад калгасаў | | | | | |
| Ад калгасьнікаў | | | | | |
| Ад аднаасобных прац.гасп. | | | | | |
| Ад кулацкіх гаспадарак | | | | | |
| Усяго | | | | | |

„ “ . . . . 1932 г.

Старшыня сельсавету (подпіс)

Ведамасьць складаецца ў 3-х экзэмплярах асобна па сельгаспадатку і асобна па страхоўцы.

§ 40. Пасьля здачы сельсаветамі сум сельгаспадатку і страхоўкі ва ўстановы Дзяржбанку, ашчадкасу або на пошту сумы гэтыя запісваюцца на выдатак па касавай кнізе адпаведнага сельсавету, з паказаньнем у ёй, якой крэдытнай установе, калі (месяц, дзень) грошы здадзены і пры якой ведамасьці.

§ 41. Ніякіх выдаткаў за рахунак сабраных страхавых плацяжоў сельскія саветы ня могуць рабіць апроч тых выдаткаў, на якія ім дадзен дазвол райфінаддзелам.

Ч. в. а. Кіраўніка Сэктару Масавых Плацяжоў
НКФ БССР **Варушыла.**
Галоўны Бухгальтар **Дудо.**

---

## Па Народнаму Камісарыяту Камунальнай Гаспадаркі БССР:

Зацьвярджаю.
Народны Камісар Камунальнай
Гаспадаркі БССР **Жуковіч.**
16 жніўня 1932 г.

## 28. ІНСТРУКЦЫЯ

### па складаньні актаў супроцьпажарных абсьледваньняў.

1. Пры супроцьпажарных абсьледваньнях, якія праводзяцца прадстаўнікамі органаў пажарнай аховы, апошнімі складаюцца акты абсьледваньня ў прысутнасьці членаў камісіі альбо адказнага прадстаўніка адміністрацыі абсьледуемага аб‘екта.

2. Акт абсьледваньня павінен складацца з 2-х частак: а) апісальнай часьці, дзе даецца апісаньне і характарыстыка супроцьпажарнага становішча аб'екта ў час абсьледваньня і б) прапаноў аб неабходных супроцьпажарных мерапрыемствах з паказаньнем тэрмінаў іх выкананьня.

3. У апісальнай часьці акта павінны быць паказаны, у адпаведнасьці з характарам аб'екта, наступныя моманты:

а) дата абсьледваньня, пералік асоб, якія ўтвараюць абсьледваньне (службовая пасада і прозьвішча), назва і адрас абсьледуемага аб'екта і каму ён належыць;

б) характар будынкаў і забудоўкі (матарыял сьцен і дахаў, разрывы, брандмаўэры і г. д.);

в) ацяпленьне і асьвятленьне памяшканьняў (сыстэма ацяпленьня і асьвятленьня, становішча печаў і комінаў, становішча электраправодкі);

г) хаваньне апалу і гаручых вадкасьцяй (род апалу і гаручага, колькасьць, месца хаваньня, ахвва іх у пажарных адносінах);

д) хаваньне сыравіны і гатовай прадукцыі (склады, запасы ў цэхах, хаваньне хлеба, фуража і г. д.);

е) сілавыя ўстаноўкі: якія ўжываюцца рухавікі, займаемыя памяшканьні і іх утрыманьне;

ж) асабліва небясьпечныя ў пажарных адносінах месцы;

з) утрыманьне тэрыторыі, становішча праездаў і разрываў (засьмечанасьць гаручымі адкідамі і матарыяламі, магчымасьць праезду пажарнага абозу і г. д.);

і) вадазабясьпечаньне на выпадак пажару: крыніцы вады, іх становішча, даступнасьць, запас вады; пры наяўнасьці вадаправода— ціск у ім, лік кранаў, іх разьмяшчэньне і г. д.;

к) агнетушыльныя прылады пры агрэгатах, складах, скотных дварох, сілавых устаноўках і інш.;

л) пажарная арганізацыя (дружына, профпасты, колькасны склад, становішча, парадак нясеньня дзяжурстваў);

м) апісаньне пажарнага дэпо і маючагася ў ім інвэнтару;

н) старажавая ахова (вартаўнікі, міліцэйскія пасты);

о) пажарная сыгналізацыя (спосабы паведамленьня аб пажары і выкліку пажарных арганізацый);

п) іншыя моманты, якія не прадугледжаны вышэй;

р) агульнае заключэньне аб супроцьпажарным становішчы абсьледуемага аб'екта.

4. Прапановы, якія даюцца ў акце, і тэрміны іх выкананьня павінны адпавядаць указаным у апісальнай часьці дэфэктам, паводле існуючых супроцьпажарных правіл.

5. Акт абсьледваньня складаецца ў колькасьці ня менш 2-х экзэмпляраў у залежнасьці ад ліку ўстаноў, якія зацікаўлены ў даным абсьледваньні, і падпісваецца ўсімі членамі камісіі.

Адзін экзэмпляр акта перадаецца адміністрацыі, якая павінна безадкладна прыступіць да выкананьня прапанаваных мерапрыемстваў у вызначаныя ў акце тэрміны.

6. У выпадку, калі адміністрацыя не згаджаецца з тымі ці іншымі прапановамі акта абсьледваньня, спрэчныя пытаньні вырашаюцца РВК альбо гарсаветам па належнасьці.

7. Дэфэкты ў супроцьпажарнай ахове, якія патрабуюць неадкладнага зьнішчэньня, павінны быць зьнішчаны не чакаючы атрыманьня акта абсьледваньня, аб чым павінна быць заяўлена адміністрацыі абсьледуемага аб'екта.

8. Органы пажарнай аховы, якімі ўтвараецца абсьледваньне, павінны мець сыстэматычны нагляд і кантроль за выкананьнем прапанаваных імі супроцьпажарных мерапрыемстваў ва ўстаноўленыя актам тэрміны.

Час. вык. аб. Начальніка Кіраўніцтва
Пажарнай Аховы НККГ БССР **Я. Ліўшыц.**

**29. Абежнік пра складаньне праектаў будынкаў грамадзкага значэньня ў сельскіх мясцовасьцях.**

*Усім органам камунальнае гаспадаркі і праектуючым арганізацыям.*

На аснове пастановы СНК БССР за 4 лютага 1932 г. № 57 аб ускладаньні на НККГ абавязку па разгляду і зацьверджаньні праектаў па жыльлёваму, камунальнаму і непрамысловаму будаўніцтву і для ажыцьцяўленьня пастановы СНК СССР за 4 мая 1932 г. № 717 аб ахове геадэзычных знакаў, Народны Камісарыят Камунальнай Гаспадаркі БССР прапануе:

1. Мясцовым органам камунальнай гаспадаркі ўстанавіць сталы кантроль за тым, каб пры пабудове новых будынкаў грамадзкага значэньня ў сельскіх мясцовасьцях было прадугледжана, каб ня менш, як адзін будынак у кожным паселішчы, меў узвышаную частку (шпіль, башанку) дазваляючую рабіць геадэзычныя нагляданьні на гэты будынак.

Праектуючыя арганізацыі павінны прадугледжваць гэтае патрабаваньне пры складаньні праекту на будынкі такога тыпу.

2. У тых выпадках калі у даным паселішчы ўжо ёсьць будынак з такой надбудовай, арганізацыя, якая праводзіць пабудову новага будынку грамадзкага значэньня павінна падаць аб гэтым праектуючай арганізацыі адпаведную даведку мясцовага органу камунальнай гаспадаркі.

Народны Камісар Камунальнае
Гаспадаркі БССР **Жуковіч.**

Ч. в. аб. Загадчыка Жыльлёва-Зямельнага Сэктару
НККГ БССР **Коршун.**

..............жніўня 1932 г.
№......................

# Абвестка

Збор Законаў і Загадаў БССР і Бюлятэнь НК і ЦУ БССР у 1932 г. рассылаюцца падпісчыкам па картачнай сыстэме. У выпадку неатрыманьня паасобных нумароў паказаных выданьняў або пры атрыманьні не тае колькасьці, якая звычайна атрымліваецца, трэба зварочвацца ў мясцовую ўстанову сувязі, дзе на кожнага падпісчыка, атрымліваючага паказаныя выданьні, ёсьць адпаведная картка з паказаньнем пэўнай колькасьці экзэмпляраў, высылемых па падпісцы.

Кіраўніцтва спраў СНК і Эканамічнага Савету БССР пасьля перадачы экспэдыраваньня сваіх выданьняў пошце ніякай адказнасьці за недасылку паасобных нумароў Збору Законаў і Бюлятэню не нясе.

Разам з тым паведамляецца, што кожнаму РВК з 1/VII-1932 г. высылаецца па 5 экз Збору Законаў і Бюлятэню.

Усім гарадзкім, сельскім і местачковым саветам выданьні высылаюцца непасрэдна.





Друкарня Кіраўніцтва Спраў СНК і ЭКАСА БССР. Галоўлітбел 411. Зак. 1064—3.800.